# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

02.02.12-08.02.12 г.



**ПРАЦА НА БТ**



ПАДАБАЕЦЦА …"АБРАНЫМ"

СТАР. 4–5

**ЧАМУ Ў БЕЛАРУСІ**

СТАЛА БОЛЬШ РАЗВОДАЎ



СТАР. 6-7


# ПАДЖОПНІК … САМІМ САБЕ

**Дыскусія пра ўдзел ці няўдзел беларускіх апазіцыйных сіл у выбарах дэпутатаў палаты прадстаўнікоў мела сімвалічны фінал.**

Намеснік кіраўніка кампаніі Аляксандр Фядута даў выспятка Беларускай хрысціянскай дэмакратыі ў асобе экс-кандыдата ў прэзідэнты Віталя Рымашэўскага.



*Замест барацьбы з рэжымам*

## НЕ ТУЗАЙ ЗА ГАЛЬШТУК!

Рознагалоссі ўзніклі з нагоды дакумента, які збіралася падпісаць кааліцыя з шасці апазіцыйных арганізацый наконт стаўлення да так званых "выбараў у палату прадстаўнікоў", якія мусяць адбыцца сёлета. Выявілася, што ўнутры хаўрусу існуюць на гэты конт супрацьлеглыя меркаванні. Адны — камуністы (цяпер завуцца СС — "Справядлівы свет") — лічаць, што трэба браць удзел у выбарах, нягледзячы ні на што. Другія — "За свабоду", "Гавары праўду", БНФ — прапаноўваюць вылучыць кандыдатаў, каб скарыстацца магчымасцямі для інфармаваня насельніцтва пра бягучую сітуацыю, а за тыдзень да галасавання зняць іх, калі не будуць вызвалены палітвязні. Трэцiя — БХД — настойваюць на паўнавартасным байкоце.

**ДА ВЕДАМА**

У кааліцыю «шасці» ўваходзяць Аб'яднаная грамадзянская партыя (АГП), Партыя БНФ, Беларуская партыя левых «Справядлівы свет», аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» (БХД), Рух «За свабоду» і грамадзянская кампанія «Гавары праўду!».

> "Аднак выспятак Рымашэўскаму ні на крок не наблізіў ні перамогу дэмакратыі ў Беларусі, ні нават вырашэнне пытання пра ўдзел ці няўдзел апазіцыі ў выбарах".

Спрэчкі прывялі да таго, што Рымашэўскі назваў Фядуту "агентам КДБ". Падпісанне дакумента было сарвана.

Пасля гэтага Фядута адмовіўся паціснуць руку Рымашэўскаму. У адказ сустаршыня Беларускай хрысціянскай дэмакратыі таргануў намесніка кампаніі "Гавары праўду" за гальштук. Фядута не стрываў...

Тое, што адбылося далей, бакі апісваюць па-рознаму. Фядута ў каментары для "Нашай нівы" кажа, што "даў падсрачнік за тое, што хлопчык не ўмее сябе паводзіць". У сваю чаргу Рымашэўскі ў гутарцы з Радыё Свабода сцвярджаў, што "не заўважыў ніякага штуршка".

## НІ НА КРОК

Паказальная і рэакцыя на здарэнне іншых палітычных гульцоў. Сайт "Хартыя-97" паведаміў пра здарэнне загалоўкам "Шестёрки подрались". У сувязі з гэтым варта прыгадаць, што на мінулых прэзідэнцкіх выбарах Андрэй Саннікаў і Уладзімір Някляеў былі саюзнікамі. Таму хамства "Хартыі" выглядае дзіўным, прынамсі, у дачыненні да намесніка кіраўніка кампаніі "Гавары праўду".


*Заканчэнне на стар. 3*


**З'ЯВА**

# АНТЫРЭКОРД БЕЛАРУСКІХ ТУРЫСТАЎ

**Колькасць беларускіх турыстаў, якія наведалі Турцыю са студзеня па снежань 2011 года, паменшылася на 18,9% у параўнанні з аналагічным перыядам 2010 года. Гэта самае адчувальнае зніжэнне патоку за апошнія пяць гадоў, паведмаляе tio.by.**

Міністэрства культуры і турызму Турцыі апублікавала папярэднюю статыстыку прыбыццяў замежных грамадзян за 2011 год. У спісе, куды ўвайшло больш за 100 краін, Беларусь займае 37-ы радок. Радком вышэй размяшчаецца былая югаслаўская рэспубліка Македонія. Грамадзяне краіны, насельніцтва якой у пяць разоў менш насельніцтва Беларусі, у 2011 годзе перасякалі турэцкую мяжу часцей: усяго з Македоніі ў Турцыю прыбылі 130 648 чалавек, з Беларусі — 123 607.

За апошнія пяць гадоў часцей за ўсё беларусы бывалі ў Турцыі ў 2008 годзе, калі паток павялічыўся адразу на 43% — да 152 961 чалавека, радзей за ўсё — у 2007 годзе, калі колькасць адпачывальнікаў склала 106 578. У 2009 годзе колькасць беларусаў, якія пабылі ў Турцыі, паменшылася на 6,8% — да 142 422 чалавек, а ў 2010-м — вярнулася на дакрызісны ўзровень, прадэманстраваўшы рост 7,2%.

# ЦІ З’ЯВІЦЦА Ў НАС СІСТЭМНАЯ АПАЗІЦЫЯ?

**ВІНЦУК ВЯЧОРКА, ПАЛІТЫК:**

## “ГАВОРКА ІДЗЕ ПРА ІМІТАЦЫЮ”.

— Я думаю, што спачатку трэба высветліць, што меў на ўвазе Рубінаў. Ясна, што гэта не з ягонага голасу гаворыцца. Трэба дэманстраваць нейкія жэсты, рытуалы ў заходнім кірунку, у бок дэмакратычнага свету. Як, напрыклад, прэзідэнт Азербайджана Аліеў: раней дэманстраваў стары, а зараз малады.

Гэта значыць, што трэба мець нібыта парламент, нібыта недзяржаўную прэсу, нібыта выбары, нібыта плюралізм. На працягу некалькіх апошніх гадоў ішла такая гульня з пераменным поспехам па стварэнні імітатарскіх структур. Аднак 19 снежня мінулага года была пастаўлена кропка (альбо коска). Ну а цяпер эканамічныя варункі зноў прыціснулі, і трэба вяртацца назад. Гэта адзін момант. Другі: перад вачыма таксама прыклад “пуцінізму”, кіруемай дэмакратыі, дзе ёсць так званая сістэмная апазіцыя, якая не наносіць ніякай шкоды, а толькі ўмацоўвае аўтарытарную сістэму ўлады.

І ў гэтым сэнсе я прагназую, што ў нашай краіне стратэгія для пабудовы так званай сістэмнай апазіцыі “а ля Рубінаў” складзецца з дзвюх частак. Першая: якая-небудзь “Белая Русь” будзе інстытуцыяналізавана як палітычная структура, але ўжо пасля так званых выбараў. Другое: пэўная частка фармальнай апазіцыі пагодзіцца на гэтую гульню. І ўжо пагаджаецца.

**АЛЯКСАНДР ПЛАСКАВІЦКІ, БЫЛЫ НАЧАЛЬНІК ГАЛОЎНАГА ДЗЯРЖАЎНА-ПРАВАВОГА ЎПРАЎЛЕННЯ АДМІНІСТРАЦЫІ ПРЭЗІДЭНТА:**

## “ГЭТА ГУЛЬНЯ ДЛЯ ЗАМЕЖНЫХ АГЛЯДАЛЬНІКАЎ”.

— Сістэмнай апазіцыі пры аўтарытарызме не бывае, а ў нас амаль што класічны аўтарытарызм. Тое, што кажа Рубінаў, — гэта гульня для замежных аглядальнікаў.

**АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ, ЛІДАР РУХУ “ЗА СВАБОДУ”:**

## “АСАБІСТА МЫ ПАВІННЫ ВЫКОНВАЦЬ МАРАЛЬНЫЯ АБАВЯЗКІ”.

— Тое, што сказаў Анатоль Рубінаў, безумоўна, тэза, добра вядомая з тых часоў, як будуецца дэмакратыя. Няма апазіцыі — няма дэмакратыі. Але ўлада будзе спрабаваць стварыць такую апазіцыю, якую хтосьці называе кішэннай, а хтосьці — кіруемай. Гэта будуць не тыя людзі, якіх электарат выбера дабравольна.



*Улада ніколі не дазволіць змагацца з ёю на роўных*

Гэта будуць людзі, якіх выбера ўлада. І гэта вялікая розніца. Улада іх называе канструктыўнай апазіцыяй, а для мяне гэта проста лаяльная апазіцыя. А калі яна лаяльная, то яна зусім не апазіцыя. Асабіста я мушу выканаць свой маральны абавязак. Наш рух прыняў рашэнне аб тым, што, калі будуць палітвязні і не палепшыцца выбарчае заканадаўства, то перад выбарамі будзем здымацца. Выканаем усю інфармацыйную работу, сустрэнемся з людзьмі, выступім па тэлебачанні, скажам усю праўду, якая ёсць, а потым знімемся.

**БЕЗ КУПЮР**

**Скандальна вядомы аўтар вершаў і па сумяшчальніцтве старшыня верхняй палаты беларускага парламента Анатоль Рубінаў нечакана загаварыў пра неабходнасць наяўнасці ў краіне і ў парламенце сістэмнай апазіцыі.**

— Цэнтралізацыя ўлады моцная, магутная кіруемасць. Чаму? А інакш не зробіш, трэба канцэнтраваць рэсурсы. Без моцнай улады і такой жа вертыкалі гэта зрабіць немагчыма, — заявіў Анатоль Рубінаў у інтэрв’ю тэлеканалу «РТР-Беларусь». — Вядома, краіна мае патрэбу ў тым, каб палітычная сістэма развівалася і быў бы іншы пункт гледжання. Апазіцыя павінна быць абавязкова. Любая краіна не можа нармальна развівацца, калі ў яе ёсць адзін пункт гледжання, якой бы добрай яна ні была ці якім бы бязгрэшным не здаваўся аўтар гэтага пункта гледжання. Але калі няма магчымасці агучваць нейкія альтэрнатыўныя прапановы, крытыку, задаваць нязручныя пытанні, то і развіцця не будзе. Гэта ж ясна. Таму пытанне пра тое, каб у нас была сістэмная апазіцыя, — найважнейшае пытанне нашай палітычнай сістэмы.

**НАТАЛЛЯ АНТОНЧЫК, СТУДЭНТКА:**

## “МЫ НАШ “САЎГАС” НІКОМУ НЕ АДДАМО”.

— У нас нават яна ёсць — грамадскае аб’яднанне “Белая Русь”, партыя ліберал-дэмакратаў Гайдукевіча. Але нават імітацыя нейкага палітычнага жыцця ў нас наўрад ці магчыма, бо выхаванне ў нас іншае. Вось, напрыклад, ці можа быць апазіцыя ў саўгасе? Нашы селектарныя нарады, публічныя разборкі з абразамі — гэта не палітычнае жыццё, а саўгас, унітарнае прадпрыемства з пэўнымі правіламі жыцця. У гэтыя правілы не ўпісваецца ніякая апазіцыя — ні сістэмная, ні пазасістэмная. Ёсць нейкія “ворагі народа”, якіх перыядычна ловяць. У нас нават нармальнай дыскусіі не будзе ніколі, бо, калі яна з’явіцца, нават імітаваная, то гэта ўжо будзем не мы.

Мы наш “саўгас” нікому не аддамо. А расійскія “гэбэшнікі” проста больш вытанчаныя, чым нашы калгаснікі.

**ЗМІЦЕР ШЫМАНСКІ, ПАЛІТЫК, БНФ (БРЭСТ):**

## “НЕ ДАПАМОГУЦЬ НІ АФІЦЫЙНЫЯ ПРАФСАЮЗЫ, НІ БРСМ”.

— Пры сённяшняй уладзе? Толькі пры ўмове, што яна будзе створана пры Адміністрацыі прэзідэнта.

Гэта яшчэ адзін фармальны чыннік, для таго каб прызнаць нашу краіну дэмакратычнай, але гэта не дапаможа. Як БРСМ не дапамагае гаворка аб тым, што ў нас існуюць грамадскія арганізацыі, а афіцыйны прафсаюз не можа пераканаць, што ў нас ёсць рэальныя прафсаюзы.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

# ПАДЖОПНІК ...САМІМ САБЕ

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар. 1*

Тым больш у сітуацыі, калі Саннікаў напісаў прашэнне да Лукашэнкі аб памілаванні, яго інфармацыйнаму рэсурсу варта было б паводзіць сябе больш сціпла.

Падсумоўваючы, можна адзначыць: Фядута зрабіў тое, аб чым марыў шмат хто з апазіцыйных палітыкаў. Нават на тле іншых Рымашэўскі даўно карыстаецца рэпутацыяй чалавека, які паводзіць сябе агрэсіўна (прычым не там, дзе трэба: патрапіўшы за краты пасля 19 снежня, ён дзеля вызвалення хуценька напісаў ліст да Лукашэнкі) і парушае дамоўленасці. Праз гэта БХД мае канфлікты і з ідэйна блізкім БНФ, і з рухам "За свабоду", і з "Гавары праўду"...

Аднак выспятак Рымашэўскаму ні на крок не наблізіў ні перамогу дэмакратыі ў Беларусі, ні нават вырашэнне пытання пра ўдзел ці няўдзел апазіцыі ў выбарах. Гэты інцыдэнт засведчыў не проста адсутнасць адзінства сярод праціўнікаў Лукашэнкі, а, хутчэй, іх скіраванасць адзін супраць другога.

Самае дзіўнае, што канфліктаваў Віталь Рымашэўскі не з лідарам СС Сяргеем Калякіным, хаця іх пазіцыі дыяметральна супрацьлеглыя, а з тымі, хто прапаноўвае, па сутнасці, байкот, як і БХД, толькі ў іншай форме. І пакуль апазіцыянеры будуць шукаць не кампраміс, а нагоду для чарговай сваркі, чакаць перамен да лепшага не выпадае.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ,**
**ВІКТАР АЛЯШКЕВІЧ**

**Вось як пракаментавалі гэтую сітуацыю для "Тут і цяпер" асобныя палітыкі.**

**ЮРАСЬ ГУБАРЭВІЧ, НАМЕСНІК СТАРШЫНІ РУХУ "ЗА СВАБОДУ":**

*— Калі па сутнасці, то Рымашэўскі паводзіў сябе вельмі непрыстойна. Ён дапускаў абразлівыя выказванні ў бок не толькі Фядуты, але і ўсіх калег па кааліцыі. З яго боку гучалі абвінавачванні, што мы тут усе працуем на Лукашэнку, легітымізуем рэжым, усе мы агенты КДБ і г.д. Карацей, хлопца панесла. Усе прысутныя стараліся паводзіць сябе досыць стрымана. Аднак падчас развітання Рымашэўскі працягнуў руку Фядуце, а той рукі не падаў, бо абразы гучалі і ў яго адрас. У адказ на гэта Рымашэўскі пачаў "развітвацца", торгаючы Фядуту за гальштук, што было ўжо зусім зняважліва ў дачыненні да чалавека, які старэйшы за Рымашэўскага па ўзросце і куды больш аўтарытэтны па жыцці. Такое зняважлівае стаўленне і выклікала адпаведную рэакцыю спадара Фядуты. І ў дадзенай сітуацыі я цалкам на яго баку, бо хамства трэба прыпыняць.*

**ВАЛЕРЫ УХНАЛЁЎ, НАМЕСНІК СТАРШЫНІ ПАРТЫІ "СПРАВЯДЛІВЫ СВЕТ":**

*— Я не прысутнічаў на тым пасяджэнні і не магу сказаць, як такое адбылося. Думаю, што такія паводзіны характарызуюць іх не як сур'ёзных палітыкаў, а як людзей, якія спецыяльна правакуюць адно аднаго на эмоцыі і рэчы, што знаходзяцца па-за нармальным палітычным працэсам.*

# ВЯРНУЦЬ ПАД ПРЫМУСАМ?

**Напрыканцы мінулага тыдня на шэрагу інтэрнэт-сайтаў з'явілася інфармацыя пра тое, што ў гарадскім пасёлку Бялынічы супрацоўніца аддзялення "Белаграпрамбанка" скрала з разліковага рахунку дзяўчыны-сіраты, якая раней навучалася ў мясцовай школе-інтэрнаце, 11 мільёнаў беларускіх рублёў.**



*Як заўсёды, чыноўнікаў шмат, клопату пра радавога чалавека мала*

Зараз супраць касіра ўзбуджана крымінальная справа па ч. 3 арт. 211 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (прысваенне грашовых сродкаў у буйных памерах). А кіраўніцтва аддзялення банка прыняло рашэнне вярнуць дзяўчыне, якая нядаўна сталася маладой маці, усю суму ўкладу з немалымі адсоткамі.

Па просьбе "Тут і цяпер" сітуацыю каментуе грамадскі актывіст Барыс Вырвіч:

— Дамагчыся праўды былая выхаванка Бялыніцкай дапаможнай школы-інтэрната для дзяцей-сірот змагла толькі дзякуючы дапамозе сваіх былых настаўнікаў і дырэктара школы-інтэрната Мікалая Дзерыпоўскага. Напачатку ні банк, ні сацыяльная раённая служба не праявілі ніякай заклапочанасці тым, што адбылося, і проста адмахваліся ад пацярпелай Зінаіды Бондаравай. Тым больш што маладая жанчына мае праблемы з выразнасцю маўлення. Ніхто не стаў яе выслухоўваць і разбірацца. "Па паперах у нас усё правільна, усё сыходзіцца", — вось што адказалі жанчыне банкаўскія работнікі. Сацыяльная служба таксама палічыла сваю работу выкананай, паколькі акуратна пералічвала сродкі на адпаведны банкаўскі рахунак. А вось тое, што Зінаіда мае праблемы з кантактаваннем з людзьмі і не заўсёды з першага разу разумее праблему ці пытанне, якія для здаровых людзей падаюцца простымі, сацыяльныя работнікі не бралі пад увагу. Вось і атрымалася, што дзяўчына да заканчэння школы-інтэрната накапіла, дзякуючы дзяржаве, пэўныя сродкі, аднак не мела навыкаў і ведаў аб тым, як гэтыя сродкі кантраляваць і як імі распараджацца. Ну, а калі б і былы настаўніцкі калектыў школы на чале з дырэктарам застаўся да Зінаідавай праблемы абыякавым?! (Дарэчы, і ад дырэктара ў раённых інстанцыях адмахваліся некалькі месяцаў, пакуль ён не далучыў да справы начальніка абласнога аддзела адукацыі Леаніда Сматрыцкага). Да таго ж пасля заканчэння дзяўчынай школы-інтэрната мінула два гады, і па ўсіх параметрах Зінаіда ўжо выпала з-пад увагі работнікаў школы. На жаль, у такіх выпадках сістэмы далейшай падтрымкі дзяцей-сірот, што выхоўваліся, па-сутнасці, у ізаляваных ад звычайнага жыцця ўмовах інтэрнатаў, у краіне няма.

> "Ну, а калі б і былы настаўніцкі калектыў школы на чале з дырэктарам застаўся да Зінаідавай праблемы абыякавым?!"

**ВІКТАР ВОЙТ**

# КАМУ НЕ СОРАМНА ПРАЦАВАЦЬ

Што адчуваюць вядучыя беларускіх тэлеканалаў, калі кажуць, што ў нашай краіне ўсё выдатна? Ці вераць яны самі ў тое, што даводзіцца агучваць? І што адказваюць "тэлезоркі" на пытанне "Ці не сорамна вам працаваць на БТ?"



*У нас ёсць толькі тэлебачанне вядомай якасці*

**ДЗМІТРЫЙ БАЧКОЎ:**

## «АД РАЗДВОЙВАННЯ АСОБЫ НЕ ПАКУТУЮ»

**Вядучы праграмы «Панарама» Дзмітрый Бачкоў ганарыцца тым, што працуе ў найбуйнейшым медыяхолдынгу Усходняй Еўропы.**

Так у канцы снежня мінулага года ён адказаў на пытанне «Вам не сорамна казаць, што працуеце на БТ?".

*"Вы маеце на ўвазе, ці не сорамна мне працаваць у найбуйнейшым медыяхолдынгу Усходняй Еўропы?* — адказаў Бачкоў. — *У асяроддзі людзей з вышэйшай адукацыяй і багатай прафесійнай, творчай і асабістай біяграфіяй? Сярод дацэнтаў, заслужаных дзеячаў і народных артыстаў? Побач з людзьмі, якія ўмеюць працаваць у рэжыме нон-стоп без стогнаў і скаргаў? Мяне цешыць, што я сярод іх».*

Дзмітрый Бачкоў верыць той інфармацыі, якую агучвае.

*«Я раздвойваннем асобы не пакутую,* — кажа 28-гадовы журналіст. — *Вы, калі ласка, зразумейце: дыктар — не акцёр. Яму Станіслаўскі ў першых шэрагах не падаўся. Ёсць падзея, і ёсць той, хто пра яе паведамляе (дыктар). Ёсць той, хто гэтае паведамленне прымае (глядач). Як толькі ў кадры з'яўляюцца эмоцыі, інфармацыя становіцца апасродкаванай, а значыць, перастае быць навіной, ператвараючыся ў меркаванне. А для меркаванняў ёсць шмат іншых праграм».*

**ЯЎГЕН ПЕРЛІН:**

## «МАРЫЎ СТАЦЬ ПРЭЗІДЭНТАМ...»

**22-гадовы вядучы праграмы «Навіны» Яўген Перлін рады, што яму не даводзіцца казаць, што дарагі бензін — гэта добра.**

Ці можа вядучы гаварыць у эфіры адно (напрыклад, як добра, што бензін зной падаражэў), а думаць абсалютна іншае (маўляў, запраўляцца стала занадта дорага)?

*«Добра, не даводзіцца казаць, што дарагі бензін — гэта добра,* — адказаў журналіст месяц назад тэлегледачам падчас анлайн-канферэнцыі. — *Па-першае, калі мы расказваем пра павышэнне цэн, то абавязкова гаворым, чаму так адбылося і чаму інакш нельга. А па-другое, калі*

**ЭКСПЕРТЫЗА**

## ЦІ ЁСЦЬ СЁННЯ НА БТ ПРАФЕСІЙНЫЯ ТЭЛЕВЯДУЧЫЯ?

**На гэтае пытанне мы папрасілі адказаць вядомага тэлежурналіста рэжысёра Леаніда Міндліна.**

— Людзі, якія добра чытаюць тэкст, ёсць; якія добра глядзяцца ў кадры — таксама, але вядучых-асоб я пакуль што не бачу.

Ёсць такая амерыканская прымаўка: пародзістага каня трымайце на доўгім ланцужку. Дык вось, тэлебачанне — гэта пародзісты конь, але ў нас яго трымаюць на кароткім павадку. Таму тэлебачанне такое, якое ёсць: прысутнічаюць прыгожыя жанчыны, прыемныя мужчыны, але не больш за тое.

**— А тэлезоркі ў Беларусі, на ваш погляд, ёсць?**

— Некаторых называюць тэлезоркамі, але ўсё пазнаецца ў параўнанні. На мой погляд, тэлезорка — гэта не толькі яркасць і харызма, але яшчэ і асобасныя якасці. Вось Леанід Парфёнаў — тэлезорка. Тэлезорка з адмоўным вобразам — Міхаіл Лявонцьеў. Я не ўспрымаю яго погляды, але чалавек ён, безумоўна, яркі. У нас некаторыя спрабавалі "касіць" пад Міхаіла Лявонцьева, але з гэтага нічога не атрымалася.

Атмасфера спараджае адпаведных персанажаў, у тым ліку і тэлевізійных. Як ні дзіўна, але такім персанажам быў Аляксандр Зімоўскі.

Асобы на ТБ пачалі з'яўляцца ў канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў, але гэты перыяд доўжыўся нядоўга. Па розных прычынах, у тым ліку і па ідэалагічных. Напрыклад, мне падабалася, як у эфіры тады працаваў Віталь Сямашка: харызматычны хлопец, з добрай беларускай мовай...

**ТЫМ ЧАСАМ**

## ЗІНАІДА БАНДАРЭНКА НА БТ НЕ ВЫКЛАДАЕ ЎЖО ВЕЛЬМІ ДАЎНО

**"Мяне туды нават не запрашаюць, а на курсах тэлевядучых выкладаюць ужо мае вучні", — гаворыць Зінаіда Аляксандраўна.**

Адным з самых яркіх тэлевядучых на беларускім тэлебачанні Зінаіда Бандарэнка лічыць Сяргея Дарафеева і амаль кожны аўторак разам з мужам глядзіць на ўкраінскім "5 канале" праграму "Партрэты", якую цяпер вядзе Дарафееў.

"Ён так добра глядзіцца, — дзеліцца ўражаннямі Зінаіда Бандарэнка. — Пачынае паціху размаўляць і на ўкраінскай мове. Падчас першых эфіраў казаў: "Яшчэ крышку і загавару на ўкраінскай". Цяпер два-тры пытанні можа задаць паўкраінску, а потым пераходзіць на рускую. Між іншым, большасць яго суразмоўцаў таксама размаўляюць па-руску".

# НА БТ?

*чалавек пачынае думаць глабальна, то ён разумее, што павышэнне коштаў — гэта не толькі змена лічбаў на цэнніку... Пазіцыя канала такая, каб на ім працавалі думаючыя вядучыя, тыя, якім можна верыць».*

А яшчэ Яўген Перлін марыў стаць прэзідэнтам.

*"І кім толькі ні марыў быць! — кажа ён. — У дзяцінстве хацеў быць шафёрам, потым — працаваць "Уладам Лісцьевым"... Затым мары, хоць неяк звязаныя з масмедыя, змяніліся сур'ёзнымі прафесіямі: юрыст і нават прэзідэнт. Але ў дзяцінстве, натуральна, ты бачыш толькі перавагі прафесіі, якія часам бываюць прыдуманымі. Затое з узростам разумееш, якая адказнасць у кожнай з іх».*

**ВІКТОРЫЯ СЯНКЕВІЧ:**

## «ПАКУЛЬ НЕ ЎЯЎЛЯЮ СЯБЕ БЕЗ ТЭЛЕБАЧАННЯ»

**Твар тэлеканала «Беларусь-1» Вікторыя Сянкевіч не выключае, што можа сысці з тэлебачання.**

На пытанне: «Калі вам прапануюць больш выгадную працу па-за тэлебачаннем, вы сыдзеце?" лаўрэат прэміі "Тэлевяршыня-2007" у намінацыі "Лепшы вядучы інфармацыйнай праграмы" адказвае з гумарам: *"Усе прапановы — адразу ў асабістую скрыню! А калі сур'ёзна, то пакуль што я не ўяўляю сябе без тэлебачання. Але не выключаю, што сітуацыя можа змяніцца...".*

**ТАЦЦЯНА НЯКРАСАВА:**

## «ЛАГІЧНА ПАВАЖАЦЬ ТОЕ МЕСЦА, ДЗЕ ПРАЦУЕШ»

**Вядучая праграм "Дзелавое жыццё" і "Сфера інтарэсаў" Таццяна Някрасава — адна з тых, хто вучыўся на курсах тэлевядучых у легендарнай Зінаіды Бандарэнка.**

Падчас нядаўняй анлайн-канферэнцыі карэспандэнт "Тут і Цяпер" задала ёй некалькі пытанняў.

**— Як думаеце, вы адна з найлепшых вядучых на БТ?**

— Так думаць надта саманадзейна.

**— Дзеля таго, каб проста ўбачыць вас на экране, людзі могуць кінуць працу, дачу, жонку/мужа?**

— Не думаю.

**— Колькі вы зарабляеце, калі не сакрэт?**

— Некарэктнае пытанне.

**— Якія-небудзь навіны з тых, якія вам даводзіцца агучваць, выклікаюць у вас унутраны пратэст?**

— Унутраны пратэст? Гвалт.

**— Вам не сорамна працаваць на БТ?**

— Я думаю, лагічна паважаць тое месца, дзе працуеш. Дзякуй.

**МАРЫНА МІТ**

27 студзеня кіраўнік канцэрна "Белдзяржхарчпрам" Іван Данчанка паставіў крыж на танных ардынарных пладова-ягадных вінах, заявіўшы, што іх вытворчасць будзе спынена ўжо сёлета. На вінзаводах распавялі, што ад таннага "чарніла" там ужо адмовіліся, паведамляе http://euroradio.fm/.

# "ЧАРНІЛА" — НА ВІНЫ "ПА СПЕЦТЭХНАЛОГІІ"

*"Ардынарныя віны мы не робім даўно. Чаму? Забаронена. Усім прадпрыемствам. Выпускаюцца толькі віны палепшанай якасці і па спецтэхналогіях",* — расказалі Еўрарадыё на Навагрудскім вінзаводзе.

Прычына надзвычай простая: новыя акцызы, уведзеныя ў жніўні мінулага года, зрабілі вытворчасць такіх він проста нявыгаднай.

"Тут яшчэ такая справа, што і падатак іншы на ардынарныя віны. Ардынарныя віны ўжо адыходзяць. Лічыцца, што палепшаныя віны маюць лепшую якасць. А яшчэ ёсць віны, выраблены па спецтэхналогіях (вытрымліваюцца пры пэўнай тэмпературы)", — расказвае тэхнолаг барысаўскага харчовага камбіната "Весялова".

Дарэчы, вінаробы шкадуюць аб забароне і кажуць, што аматары іх прадукцыі нават патрабуюць вярнуць улюбёныя маркі. Як у выпадку з весялоўскім брэндам — віном "Чорная дама", якое заваявала 19 залатых (!) медалёў на конкурсах і фестывалях. Разам з "Чорнай дамай" зніклі таксама "Мары паляўнічага", "Жураўліная песня" і "Старое танга".

"Нават зараз патрабуюць і просяць. Проста палітыка такая, што нявыгадна ставіць на вытворчасць. Мы павінны думаць і пра тое, каб заробак атрымліваць, і ў той жа час, каб нейкі прыбытак быў. Ардынарныя віны выключаюць з продажу — падатак высокі. Мы не супраць выпускаць. Народ і патрабуе гэтую "Чорную даму".

Ардынарныя віны ад іншых адрозніваюцца тым, што ў пладовую аснову проста дабаўляюць спірт, не чакаючы, пакуль ён там з'явіцца натуральным чынам. У так званых палепшаных і спецыяльных вінах працэс браджэння натуральны. Кошты на такія напоі ў раёне складаюць 8—12 тысяч за пляшку аб'ёмам 0,7 літра. Такая ж пляшка самага таннага натуральнага вінаграднага віна каштуе каля 20 тысяч.

Аднак адрозніць на смак ардынарнае віно ад палепшанага бывае складана. А на этыкетцы састаў пазначаны не заўсёды. Ва ўпраўленні абароны правоў спажыўцоў Мінгандля кажуць, што віно без пазначанага саставу на этыкетках лепш не купляць, і прызнаюць, што гэта з'яўляецца парушэннем заканадаўства. Даведацца пра састаў віна можна ў прадаўцоў альбо ў вытворцы. У выпадку атручэння варта звярнуцца ў суд. Толькі трэба ўзяць з сабой усе квіткі, каб абгрунтаваць прэтэнзіі.

**АЛЕСЬ ПІЛЕЦКІ**

# ПАМЫЛКА ЧАСУ

**Мы часта сутыкаемся з памылкамі перакладу альбо недастатковага ведання граматыкі, а ёсць яшчэ памылкі, створаныя самім часам.**




Так, і на гэтай шыльдзе на мінскай бібліятэцы № 1 імя Л.М. Талстога, дзе да змены правапісу ў 2010 годзе, усё было правільна, а зараз замест слова "МінгарвыканкОма" павінна быць "МінгарвыканкАма". Чаму памылка каторы год не выпраўлена, карэспандэнт "Тут і Цяпер" пацікавілася ў загадчыцы бібліятэкі.

— Пра памылку гэтую мы ведаем, і ўсе нашы чытачы ставяцца да яе з разуменнем. Шыльда выраблена ў 1978 годзе, калі была праведзена цэнтралізацыя масавых бібліятэк сталіцы, і аналагічныя шыльды вісяць на ўсіх будынках бібліятэк Мінска, — патлумачыла Таццяна Маткоўская. — Але ж вы разумееце, што патрэбны грошы, каб зрабіць правільны варыянт. Заменай гэтай павінна займацца Цэнтралізаваная сістэма дзяржаўных публічных бібліятэк г. Мінска, і такое мерапрыемства запланавана, але калі ў бюджэтнай установы, якая працуе за грошы падткаплацельшчыкаў, знойдуцца на гэта сродкі, ніхто не ведае.

У снежні 2011-га бібліятэка адзначала 100 годдзе з дня існавання, у ёй планавалі вялікі рамонт, але змаглі зрабіць толькі касметычны. Бо з-за крызісу закладзеных грошай ледзьве хапіла, каб прыдаць паяшканню больш-менш прыстойны выгляд. Так што, пэўна, чарга дойдзе да шыльдаў яшчэ не хутка.

**ІРЫНА ЧЫЖ**

# З-ЗА КРЫЗІСУ БЕЛАРУСЫ СТАЛІ ЧАСЦЕЙ РАЗВОДЗІЦЦА?

Летась у Беларусі было скасавана 38 584 шлюбы — на 5,3% больш у параўнанні з 2010 годам. Зрэшты, мо справа не толькі і не столькі ў крызісе? Па якіх прычынах цяпер распадаюцца беларускія сем'і, высвятляла "Тут і цяпер".



*Разводы – бяда амаль кожнай другой сям'і*

## РАЗАМ — АГІДНА, ПААСОБКУ — ДОРАГА

"Мы не пражылі з мужам і трох год, як сталі адно аднаму чужымі, — прызнаецца 27-гадовая Алеся Шамко. — Не разыходзімся ж дагэтуль па вельмі банальнай прычыне — мне проста няма дзе жыць. Кватэру мужу яшчэ ў студэнцтве падарылі бацькі, таму я не маю на яе ніякіх правоў. Прапісаны ў ёй толькі муж і наш двухгадовы сын, а я рызыкую застацца на вуліцы. Наймаць асобнае жыллё надта дорага з маёй двухмільённай зарплатай, вяртацца да мамы ў Баранавічы — дык там я буду зарабляць яшчэ менш, не пракармлю нас з малым. Муж хоць і не дае нам ні капейкі, але ж за кватэру плаціць і прадукты для сябе, любімага, набывае, а я жыву на ўмовах хатняй прыслугі. Калі змагу нарэшце сама сябе забяспечваць, то адразу ж падам на развод, бо жыць побач з агрэсіўным, чужым табе чалавекам, бачыць яго бясконцыя п'янкі з сябрамі і дзеўкамі агідна".

Сітуацыя, калі людзі нават пасля разводу вымушаны доўгія гады суіснаваць у адной кватэры, матляючы адно аднаму нервы, бо няма куды раз'ехацца, далёка не рэдкасць. Здавалася б, калі разводы ў дадзеным выпадку нічога не вырашаюць, а захаванне сям'і дае няхай і ўмоўны, але шанс на прымірэнне, то колькасць такіх разводаў павінна зменшыцца. "Наадварот, будзе толькі расці, — прасвятлілі бывалыя "чаргавікі", якія чакаюць свайго права на будаўніцтва жылля не першы дзясятак гадоў. — Бо разышліся і адразу сталі ў чаргу. Прэтэндуючы пры гэтым на льготы і дзяржпадтрымку як няпоўная ды малазаможная сям'я".

## ЗАХАВАЦЬ НЕЛЬГА ПАДЗЯЛІЦЬ

Дальнабойшчык Валерый Руткоўскі, якому крыху за 40, пасля амаль 10 год сямейнага жыцця вярнуўся ў статус халасцяка і практычна не падтрымлівае стасункаў з былой сям'ёй. "Чаму я са сваёй разышоўся? Спачатку даведаўся, што заробленыя маім потам і, фігуральна кажучы, крывёю, грошыкі ідуць на пасядзелкі з невядомымі "сяброўкамі" ў кафэ. Потым і сябры пацвердзілі, што бачылі яе ў горадзе з усякімі "бобікамі".

Проста здраду я, хоць мо і не дараваў бы, але зразумеў бы, — я заўсёды ў раз'ездах, дома бываю рэдка. Але тое, каб на гулянкі яна трацiла нашы, у сэнсе мае, грошы?! У нас нават пагаварыць не атрымалася: сабрала рэчы і з'ехала з сынам і чарговым хахалем да бабкі ў вёску. Ну і я не доўга думаў — падаў на развод. Больш за тое, уладкаваўся на мінімальны афіцыйны аклад, каб яна не вельмі разлічвала на аліменты. Калі сыну што трэба, перадаю праз былую цёшчу — вось дзе залаты чалавек, мяне цалкам падтрымлівае. Але тое, што сыну ў вушы ўводзяць, — які ў яго бацька дрэнны — нават яна спыніць не можа. А я для сябе вырашыў: цяпер ніякіх ЗАГСаў, толькі свабодныя стасункі, калі каму надакучыла ці хочацца большага — да пабачэння!"

Як на ўмовах ананімнасці распавялі супрацоўнікі аднаго з раённых судоў Мінска, цяпер ледзь ці не кожная другая сталічная сям'я, у якой ёсць дзеці, усе спрэчныя моманты пры разводзе — аліменты на дзіця ці на маці і дзіця; з кім з бацькоў застанецца жыць дзіця; як будзе ўдзельнічаць у яго выхаванні і забеспячэнні другі з бацькой — вырашае ў судовым парадку.

> "Калі змагу нарэшце сама сябе забяспечваць, то адразу падам на развод, бо жыць побач з агрэсіўным, чужым табе чалавекам агідна".

## РАЗВОД І ДЗЯВОЧАЕ ПРОЗВІШЧА

"Я пражыла па ягоных правілах і з ягоным прозвішчам амаль 15 гадоў, — 33-гадовая Аксана Горбач прынцыпова не называе экс-мужа па імені, толькі "ён". — І ўвесь час пад кагосьці падладжвалася: то пад яго маці, то пад яго планы, то пад яго звычкі. Трэшчынкі ў адносінах замазвала і залізвала, як магла.

А потым зразумела, што гэта гульня ў адны вароты, і перастала. Цярпела толькі дзеля дзяцей: адной дачцэ 13, другой 7, і ў абедзвюх, на жаль, слабое здароўе. Трэба было часта выязджаць на мора, а ён пагражаў, што ў выпадку разводу не дасць дазволу на вываз дзяцей з Беларусі. Калі гэтую дурную норму нарэшце адмянілі, я як на крылах лётала! Праўда, суд некалькі разоў даваў адтэрміноўку на прымірэнне, таму развяліся мы толькі на пачатку 2011 года. Я вярнула сабе дзявочае прозвішча, любімую (і нядрэнна аплачвальную) працу, нарэшце, самапавагу, і цяпер мы з дачушкамі шчаслівыя, як ніколі!"

## АФІЦЫЙНА

**Паводле звестак Нацыянальнага статыстычнага камітэта, у 2011 годзе было зарэгістравана 86 785 шлюбаў, у 2010 — 76 978, у 2009 — 78 790. Колькасць разводаў за апошнія тры гады няўхільна павялічвалася і склала адпаведна 38 584 — у 2011 годзе, 36 655 — у 2010, і 33 113 — у 2009. У гэтай невясёлай статыстыцы гарадскія жыхары перавышаюць па колькасці вяскоўцаў. Прыкладам, у 2010 годзе на тысячу гараджан прыпадала 4,5 разводу, а ў сельскай мясцовасці — 2,1.**

**Як сведчаць даследаванні Фонду ААН у сферы народанасельніцтва, найчасцей (у кожным чацвёртым выпадку) у Беларусі разыходзяцца сямейныя пары, якія пражылі ў шлюбе 5—9 гадоў, і амаль палова разводаў прыпадае на ўзрост 25—34 гады.**



*Калі разодзяцца бацькі, заўсёды пакутуюць дзеці*

Сапраўды, да 26 сакавіка 2010 года на выезд дзіця за мяжу з адным з бацькоў патрабавалася пісьмовая згода другога. Мяркуючы па водгуках на бацькоўскіх форумах, гэтым правам — "хачу — дазволю, хачу — не дазволю" — спекулявала значная частка былых мужоў (радзей жонак).

## ТАМ ДОБРА, ДЗЕ НАС НЯМА?

"Так, мы таксама заўважылі тэндэнцыю да росту колькасці разводаў, — адзначае сямейны псіхолаг, сексолаг Вольга Петрашкевіч. — Прычыны тут самыя розныя. Напрыклад, часта разыходзяцца сем'і, у якіх жонка пайшла ў дэкрэтны адпачынак або ўвогуле занялася толькі хатняй гаспадаркай, а муж узяў на сябе функцыю здабытчыка. Жанчына трапляе ў эмацыянальны вакуум, а запоўніць яго не можа, бо муж увечары прыходзіць з працы стомлены, і яму не да шчырых размоў.

Жонка хоча, каб муж адпавядаў яе пэўным патрабаванням, а муж сыходзіць у глухую абарону. Частая прычына разводаў — здрада; шукаць у іншым месцы зніклую эмацыянальную блізкасць часцей схільны мужчыны. Не на апошнім месцы сярод прычын разводу стаяць і праблемы сэксуальнага плана, прычым дакапацца да іх, як правіла, вельмі складана. Дарэчы, часам жанчынам выгадна, каб муж заставаўся сексуальна непаўнацэнным, — тады ім лягчэй маніпуляваць… Зрэшты, нельга вінаваціць толькі мужчын ці толькі жанчын: у канфліктах, тым больш сямейных, заўсёды вінаваты абодва бакі".

Што да эканамічнага аспекта, то ён хоць і прысутнічае амаль у кожным разводзе, але, на думку эксперта, з'яўляецца, хутчэй, зручным прыкрыццём і апраўданнем для распаду сям'і, чым яго рэальнай прычынай. "Усё ж калі сям'я згуртаваная, то любыя праблемы, у тым ліку фінансавыя, яе толькі яшчэ больш загартоўваюць і ўзмацняюць. А калі з самага пачатку саюз не вельмі трывалы, то эканамічныя прычыны — толькі нагода, як правіла, для жонкі, адыграцца за колішнія крыўды: маўляў, "ты нават на сям'ю зарабіць не можаш". Асноўныя ж прычыны павелічэння колькасці разводаў, мяркуе псіхолаг, у тым, што беларусы імкнуцца атрымаць зашмат, не прыкладаючы намаганняў.

"Маральныя нормы ўсётакі пахіснуліся ў нашым грамадстве, і сям'я для многіх страціла сваю каштоўнасць, саступіўшы месца нейкай "свабодзе", — кажа спецыяліст.

> "Жанчына трапляе ў эмацыянальны вакуум, а запоўніць яго не можа, бо муж увечары прыходзіць з працы стомлены, і яму не да шчырых размоў".

Магчыма, справа ў эмацыянальнай нясталасці, у тым, што мы развучыліся саступаць адно аднаму ды і проста размаўляць і слухаць партнёра. Людзі не гатовы працаваць дзеля захавання гармоніі ў стасунках. Яны ўяўляюць сабе вобраз цудоўнай сям'і, а як толькі знікае рамантычны флёр і адбываецца натуральнае згасанне пачуццяў, схільны пасаваць і шукаць, дзе лягчэй. Навошта ісці цярністым шляхам, калі існуюць лёгкія? Навошта берагчы шлюб з гэтай жанчынай, калі досыць іншых, свабодных, на спадачку з блакітнай абламоўкай?

**ВІКТОРЫЯ ПРАКАПОВІЧ**

# СЛАВЯНСКІЯ КРЫКІ Ў МЕЛЬБУРНЕ

**22-гадовая мінчанка Вікторыя Азаранка ўпершыню за сваю кар'еру выйграла адкрыты чэмпіянат Аўстраліі — адзін з чатырох турніраў Вялікага шлема, які з'яўляецца самым прэстыжным і высокааплачвальным тэнісным**




## "НАША" МАША…

Беларуска перамагла ў паўфінале леташнюю чэмпіёнку легендарную Кім Клійстэрс з Бельгіі — 6:4, 1:6, 6:3, а ў фінале "разграміла" 24-гадовую расіянку Марыю Шарапаву — 6:3, 6:0. Узнагародай Вікторыі сталі 2 мільёны 180 тысяч долараў і тытул першай ракеткі свету. Да яе зрабіць такое нікому з беларусак не ўдавалася.

Фінальнае супрацьстаянне Азаранка і Шарапавай чакалася з надзвычайнай цікавасцю хаця б таму, што мела ярка выяўлены славянскі падтэкст. Бацькі Шарапавай таксама з Беларусі. Яны з'ехалі з Гомеля ў Расію пасля чарнобыльскай катастрофы і пасяліліся ў Нягані (Ханты-Мансійская аўтаномная акруга), дзе і нарадзілася Маша. А яе бабуля, Галіна Дзям'янаўна, дагэтуль жыве ў Гомелі і хварэе за ўнучку, якая зрэдку яе наведвае. Для Машы гомельскія карані не пусты гук: яна заснавала адмысловы фонд, які ажыццяўляе падтрымку шэрагу праектаў у раёнах, што пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС у Беларусі, Расіі і Украіне, а таксама фінансуе ў нашай краіне праграму стыпендый для студэнтаў — выхадцаў з пацярпелых ад тэхнагеннай катастрофы раёнаў. З 2007 года Шарапава — амбасадар добрай волі Праграмы развіцця ААН.

Вікторыя Азаранка таксама заўважана ў дабрачыннасці. У лістападзе 2010 года яна згуляла ў мінскім Палацы спорту паказальны матч з першай ракеткай свету датчанкай Каралін Вазняцкі (у яе таксама славянскія карані — польскія). Тады на корце з'явіўся і прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Акцыя ўдала ўпісалася ў яго перадвыбарную кампанію.

Абедзве дзяўчыны — і Вікторыя, і Марыя — цяпер жывуць далёка ад родных сцен: Азаранка — у цэнтры княства Манака Монтэ-Карла, побач з багачамі з усяго свету. Шарапава асталявалася ў курортным Брэдэнтане (штат Фларыда, ЗША). Дарэчы, там жыве і знакаміты беларускі тэнісіст Макс Мірны. А трэніруе Машу з нядаўняга часу былы партнёр Мірнага па зборнай Беларусі Уладзімір Валчкоў.

## … І НАША ВІКА

На тэнісную адукацыю Вікторыі істотна паўплывала мінскі трэнер Надзея Драздова. Потым з Вікай доўга працаваў партугалец Антоніа Ван Грычэн, а апошнія два гады яе курыруе француз Сэмюэль Сюмік. Менавіта ён навучыў Віку, якая славілася нястрыманасцю і брыдкаслоўем на корце, валодаць сабой і не расплюхваць нервовую энергію.

*Заканчэнне на стар. 8*

# СЛАВЯНСКІЯ КРЫКІ Ў МЕЛЬБУРНЕ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 7*

## 22-гадовая мінчанка Вікторыя Азаранка ўпершыню за сваю кар'еру выйграла адкрыты чэмпіянат Аўстраліі




*Аўстралійскі турнір прынёс нам першую ракетку свету*

Раней праз усплёскі раздражнення Азаранка страчвала кантроль над сабой і цярпела паразы ад больш слабых саперніц. Мудры француз паступова "вылечыў" экспрэсіўную беларуску. Гэта дазволіла ёй дасягнуць істотнага прагрэсу ў выніках.

Першых значных поспехаў мінчанка дамаглася ў 16-гадовым узросце: тады яна выйграла адкрыты чэмпіянат Аўстраліі і яшчэ некалькі турніраў Вялікага шлема ў юніёрскім разрадзе, а таксама стала лідарам сусветнага юніёрскага рэйтынгу. Праз шэсць гадоў яна паднялася на вяршыню ў дарослым тэнісе.

За дзень да вырашальнага матча Шарапава праігнаравала традыцыйную прэс-канферэнцыю, затое там саліравала Азаранка. Яна, у прыватнасці, сказала: "Беларусы і рускія — цалкам розныя нацыі. Адзінае, што нас аб'ядноўвае, — дык гэта тое, што мы гаворым на адной мове. Хаця ў нас ёсць і свая мова. Наогул, не хацела б у гэта паглыбляцца, але за межамі сталіцы можна ўбачыць акуратныя, чыстыя гарады. Лічу, гэта шмат аб чым кажа. Думаю, па характары беларусы вялікія працаўнікі".

### САМЫ ГУЧНЫ ФІНАЛ

Да фіналу ў Мельбурне Віка і Маша сустракаліся на корце шэсць разоў, і кожная атрымала па тры перамогі. Падчас іх апошняй сустрэчы беларуска, прайграючы, уголас груба вылаялася па-ангельску. Гэта стала прадметам абмеркавання інтэрнацыянальных СМІ. Зрэшты, Віка паспяшалася запэўніць свет у тым, што да саперніцы яе грубіянства не мае ніякага дачынення.

Для Шарапавай фінал турніру Вялікага шлема быў ужо шостым (тройчы яна перамагала), а для Азаранка — першым. Таму Віка напярэдадні дрэнна спала, хвалявалася звыш меры, згараючы ад нецярпення: калі ж пачнецца фінал? Узрушанасць прыкметна скоўвала беларуску. У пачатку сустрэчы яна зрабіла адразу дзве падвойныя памылкі і дазволіла расіянцы павесці — 0:2. Трэці гейм — яшчэ адна падвойная памылка беларускі, але затым Азаранка дала сабе рады. "У той момант я імкнулася гуляць агрэсіўна і старалася як мага радзей памыляцца", — распавяла яна пасля матча. Вельмі хутка ініцыятыва перайшла ў яе рукі, і нервавацца стала ўжо Шарапава. Пасля ліку 3:3 Азаранка выйграла дзевяць геймаў запар. У выніку на яе долю прыпала ўсяго 12 нязмушаных памылак, у апаненткі іх набралася 30. Так наймацнейшыя нервы сталі закладам поспеху.

Гэты фінал стаў, верагодна, самым гучным у гісторыі тэніса. Абедзве дзяўчыны вядомыя тым, што ў момант удару па мячы аглушальна крычаць. Сіла Вікавых гукаў дасягае 95 дэцыбел, Машавых — 105! Характэрна, што, бываючы ў родным Мінску, Вікторыя паводзіць сябе нягучна: яна катэгарычна адмаўляецца даваць інтэрв'ю беларускім журналістам, папракаючы іх у непрафесіяналізме. Нават дзіўна: як у такой непрафесійнай краіне, як Беларусь, выгадавалася лепшая тэнісістка планеты Зямля?..

**МІХАСЬ МОШЫН**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 22:45 02.02.12
Тыраж 299 экзэмпляраў